Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана 25 гр.

№ 5 (15) Вільня, 10 Кастрычніка 1935 г. Год III

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Балтупская 14 — 6 (Wilno, Bołtupska 14 — 6). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях" выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр. Цана абвестак паводле ўмовы.



## Ліга Народаў.

Людзі прывыкшыя да старых формаў жыцьця, людзі заплясьнеўшыя ў штодзеннай барацьбе за сваё жалюгоднае існаваньне,—з жахам пазіраюць на заўтрашні дзень, ня ведаючы, што ён нясе.

У такім стане знаходзяцца і цэлыя народы, з ліку тых, каторыя не здабыліся на ідэолёгічнае і нацыянальнае аздараўленьне і каторыя хацелі-б, каб існуючае на сьвеце палажэньне, вытварыўшае для іх больш спрыяючыя абставіны, цягнулася вечна.

Яны запамінаюць, што ўсё ў жыцьці рухаецца і імкнецца наперад у мэтах дасканаленьня і што нічога няма пастаяннага.

Вечны супакой, як у людзей так і ў людзкой грамадзе, немагчымы, а калі-б ён запанаваў—гэта азначала-б нішто іншае, як сьмерць усяго існуючага.

Праз войны і рэвалюцыі, праз крывавыя ахвяры людзкасьць мусіць ісьці наперад, бо такі ёсьць закон, які кіруе поступам і людзкою натураю. Тое, што здавалася пэўным і цьвёрдым як гранітная скала — раптоўна рушыцца, аказаўшыся непатрэбным, а навет і шкодным з хвілінаю, як сярод народаў выяўляюцца новыя патрэбы і сілы, пхаючыя іх у гістарычную падарожу.

Няма нічога дзіўнага, калі дзеля гэтых самых прычын такая, здавалася-б, моцная сусьветная ўстанова, якою зьяўлялася Ліга Народаў, створаная пасьля сусьветнай вайны дзяржавамі-пераможцамі, у мэтах замацаваньня свайго панаваньня і забясьпечаньня ад будучых войнаў,—на нашых вачох банкрутуе і хутка адыйдзе ў галіну гістарычных успамінаў.

Ліга Народаў ёсьць цяпер нічым іншым, як яскравым абразам сусьветнай несправядлівасьці ў адносінах да народаў слабейшых, асабліва-ж да народаў пазбаўленых сваей дзяржаўнасьці, бо ўсе яны былі аддадзены ёю на эксплёатацыю народам драпежным, а ў першую чаргу жыдом.

Уступленьне туды Савецкага Саюзу, якое адбылося ў 1934 г., разглядалася яе творцамі як факт дадатні, каторы павінен быў узмоцніць аўторытэт гэтага недарэчнага твору, замкнуўшы тое кола з ланцугоў, якімі цёмныя сілы імкнуліся апутаць сьвет.

Прабываньне там прадстаўнікоў ад краіны прымусу і чырвонага тэрору зусім слушна расцэньваецца прыгнечанымі народамі як яўны гвалт проці інтарэсаў гэтых народаў, якіх пры сучасным стане рэчаў няма каму бараніць.

Што датычыць беларусоў, то гэтакая думка павінна была канчальна скрысталізавацца пасьля цынічнай заявы лодзінскага жыда Валаха, каторы, высту-

паючы як савецкі камісар заграні́чных спраў пад псэўдонімам „Литвинов“, адважыўся сказаць перад Лігаю, што ў Саветах усе нацыянальныя пытаньн вырашаны на карысьць меншасьцяў...

І вось цяпер гэтая самая Ліга, дзе засядаюць стаўпы і тузы сучасных парадкаў, крыўдных і несправядлівых, збанкрутавала канчальна. Яна давяла сваю бязвартаснасьць у самы адказны гістарычны мамэнт, ня маючы сілаў вывясьці народы з тых эканамічных і палітычных камплікацыяў, у якіх яны апынуліся.

Адначасна з банкруцтвам буржуазна-капіталістычнага ладу мусіла збанкрутаваць і ягонае міжнароднае снарадзьдзе.

Нас гэта ня дзівіць і ня страшыць...

Мы добра ведалі і раней, што гэтакая мешаніна, пазбаўленая кіруючай і здаровай ідэі, ня маючая супольнага языка, у якой кожны сябра трымае камень за пазухаю для свайго суседа, павінна была бязслаўна закончыць сваё існаваньне.

На яе зьмену прыдуць новыя формы міжнароднага сужыцьця, але прыдуць пасьля таго, як усе народы ўступяць на шлях нацыянальнага і палітычнага адраджэньня пасьля вялікіх забурэньняў, якія насоўваюцца і якіх ніхто ня спыніць.

Мы верым, што пры будучай перакройцы эўрапейскай карты і беларускі народ атрымае правы на міжнародным форуме. Толькі тацы ня будзе таго, што наглядаецца цяпер, калі ад ягонага імя выступаюць лодзінскія жыды, а Ліга Народаў слухае іх і прымае ўсё сказанае як запраўдны голас нацыянальных меншасьцяў...

Ф. Акінчыц.

---

*Хто чытае „Новы Шлях“ не аплаціўшы падпіскі, той выкарыстоўвае чужую працу і выяўляе сваю грамадзкую нявыробленасьць.*

---

## „Я такі, якім чуюся“.

„Я такі, якім чуюся“—часта чуваць гэткія словы ад тых, што выракаюцца свайго народу. Яны гэтым хочуць сказаць, што яны не належаць да таго народу, да каторага належаць іхнія бацькі і продкі, што не належаць да таго народу, з каторага ўрадзіліся але да іншага народу — чужога іхнім бацьком і прадзедам, народу, каторы яны — патомкі сабе ўпадабалі. Калі-б гэтак казалі асобныя цёмныя людзі, хоць часта і лічачы сябе сьветлымі, дык ня было-б такое дзівая. Але гэтак цьвердзяць і некаторыя вучоныя, нават болей: гэткі пагляд да некаторай меры цяперака ў модзе. Дзеля таго варта да гэтага пытаньня крыху прыглядзіцца бліжэй.

Пагляд, што хто сябе лічыць сябром якога народу да такога і запраўды належыць ня новы і не навука яго выдумала. У 17—18 веку туркі дзяржаліся гэтага пагляду, хоць ня былі людзьмі вучонымі. Туркі адбіралі малых дзяцей у паняволеных імі народаў, гадавалі іх патурэцку так, што тыя вырасшы ня зналі сваіх бацькоў ані свайго народу і ўважалі сябе за найчысьцейшых туркаў, найшчырэй і заўзята баранілі ўсё турэцкае, дый з усяе сілы ненавідзелі той народ, чыю кроў мелі ў сваіх жылах. Гэта былі Янычары—найстрашнейшае войска турэцкае. Янычары адважна біліся за Турэччыну, бязміласэрна забіваючы сваіх бацькоў і братоў.

Цяпер рэдка бывае, каб улада пануючага народу сілком адбірала дзяцей народу панявольнага, каб узгадаваць іх за шчырых сваіх слугаў і адначасна непрыяцеляў роднага ім народу. Але ці цяпер нямашака Янычараў? Калі, напрыклад, Францыя ў Сырыі закладае францускія школы арабскім дзецям і гадуе іх там так, што тыя потым ня лічаць сябе арабамі, але французамі і чураюцца ўсяго арабскага, дык ці-ж гэта не янычарства? Зьмяніўся крыху спосаб, але заданьні асталіся даўнейшыя—турэцкія. Але нашто браць прыклады ажно з далёкай Сырыі. Ці перад вайною ў расейскіх школах агульна-асьветных і адумысловых, як вучыцельскія і духоўныя сэмінарыі, не гадавалі беларускіх дзяцей на расейскіх янычараў?! А як цяперака гадуюць беларускіх дзяцей у чужых школах нашае Бацькаўшчыны паабапал рыскае граніцы, няхай адкажуць усе тыя, што гэта ве, даюць і бачаць. Нядаўна нейкі Шантэр прапанаваў у „Кур'еры Віленскім“ польскай уладзе, каб адбіраць беларускіх дзяцей у іхніх бацькоў і гадаваць іх у адумысловых табарах (лагерах), а гэта дзеля таго, каб адвучыць дзяцей ад беларушчыны і прывучыць да польшчыны. Гэта клясычны прыклад янычарскіх імкненьняў. Нічагусенькі большага і туркі ў свой час не рабілі.

Наагул школы некатотых пануючых народаў праводзяць цяперака янычарскае ўзгадаваньне сваіх гадунцоў з народу паняволенага. Не дарма адным з галоўных дамаганьняў Італіі, сьціраваных да Абіссыніі было-

каб апошняя дазволіла ў сябе закладаць Італіі для абіссынскіх дзяцей італьянскія школы.

Лішня хіба будзе задаваць сабе пытаньне ці туркі, французы, расейскія чарнасоценцы разам з лібераламі і сацыялістамі, ды чарнасоценцы польскія разам з панамі Шантэрамі ўважалі-б нармальным, каб янычараў рабілі з іхняга народу. Не. Яны ня могуць гэтага нават дапусьціць. Але болей — нізашто яны ня прызналі-б нармальным, правільным каб іхні народ ці часьць яго, нават бяз дзікой, запраўды бязбогай янычарскай школы, а так, пад чужым культурным уплывам чураўся свайго і ліп да чужога.

З вышмянаванага бачым, што ў пагледзе „ты такі, якім чуешся" няма нічагусенькі навуковага, за тое шмат ёсьць практычнага, а яшчэ болей палітычнага. Французы, што ўважаюць нармальным і добрым калі несьвядомыя правансальцы, брэтонцы і каталёнцы лічаць сябе французамі; тыя самыя французы ані слухаць ня хочуць, каб лічачыя сябе немцамі эльзасцы, запраўды былі такімі, а не французамі. Каб французскія вучоныя прыхільнікі пагляду „ты такім, якім чуешся" пратэставалі ў гэтым выпадку — ня чуваць было. Палякі ў Заходняй Беларусі соладка пяюць нясьведамым нашым інтэлігентам каталіцкай веры, што яны такія, якімі чуюцца, але тыя-ж палякі ані ня думаюць лічыцца з пачуцьцём зьнямеччаных палякоў на Шлёнску. Наадварот, нават на жаданьне Польшчы існуе на Шлёнску міжнародная камісія, што прымушае недаволі ўмеючых панямецку, але чуючых сябе немцамі шлёнзакаў, пасылаць сваіх дзяцей у польскія, ані ў нямецкія школы. Ніводны польскі прыхільнік пагляду „ты такі, якім чуешся" ня выступіў проці прынцыпу і практыкі мясцовай камісіі.

Прыкладаў падобных можна было-б налічыць мноства. Усе яны даводзяць, што проста сьмешна прыдаваць якое-колечы навуковае значэньне пагляду „ты такім — якім чуешся".

Калі-б хто сваіх родных бацькоў і братоў ня прызнаваў такімі, а сваімі бацькамі лічыў людзей яму чужых (паміж вар'ятамі здараюцца такія прыпадкі), дык ад гэтага нічагусенькі не зьмянілася-б — бацькі асталіся-б яму бацькамі, а чужнікі — чужнікамі. Таксама і з прыналежнасьцяй нацыянальнай: не ад нас яна залежыць, але ад нашага паходжаньня. Пагляд „ты такі, якім чуешся" паўстаў у захопніцкіх крыўднічаў пануючых народаў, каб дурніць ім слабшых людзей народу паняволенага. Пагляд гэты надта добра годзіцца на тое, каб усьпіць ім сумленьне і заглушыць стыд у тых людзей паняволенага народу, што падаўкія за ласы кавалак, або й косьць з стала пануючых, да здрады свайго народу.

Шчырак.

*Супроць капіталізму — свой сацыялізм!*

# Чарговая правакацыя бальшавікоў.

У сувязі з набліжаўшыміся грознымі падзеямі, у выніку каторых наступяць на сьвеце вялікія перамены, а ў першую чаргу будзе зьліквідаваны камуністычны рэжым у Саветах — Маскоўскі Камінтэрн выяўляе ліхарадачную дзеяльнасьць.

Ва ўсіх краёх, дзе яму не ўдалося выклікаць рэвалюцыю і замацаваць сваю ўладу — прапагуецца цяпер ідэя стварэньня адзінага „проціфашыстоўскага блёку", куды ўвайшлі-б ня толькі сацыялістычныя, але нават дэмакратычныя і дробна-буржуазныя элемэнты.

У гэтай акцыі, закроенай у сусьветным маштабе, „бальшавіцкія жыды з Масквы", як вельмі трафна назваў камуністаў Гітлер падчас апошняга зьезду ў Нюрэнбэргу, — імкнуцца пацягнуць за сабою ўсе нездэцыдаваныя грамадзкія сілы, каб пры іхняй дапамозе запанаваць над сьветам, а потым, выкарыстаўшы іх, выкінуць на сьметнік.

Гэтакая афёра (іначай назваць апошнія пасуненьня Камінтэрну немагчыма) не зьяўляецца навіною.

Тое самае было ў Расеі падчас кастрычнікавай рэвалюцыі, калі камуністы выкарысталі лёгкаверную частку расейскіх сацыялістаў, а потым, умацаваўшы пры іхняй дапамозе сваю ўладу, усіх пазабівалі, або павысылалі ў Сібір.

Як і трэба было спадзяваццa, „абаронцы дэмакратыі" зьвярнуліся з тым самым і да беларускіх арганізацыяў, да якіх яны лічылі магчымым зьвярнуцца.

Гэтакім чынам, у жніўні г. г. Цэнтральны Камітэт Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі прыслаў пісьмо адрэсаванае да Цэнтр. Кам. Бел. Хрысьціянскай Дэмакр. Партыі, да ўсіх арганізацыяў, сяброў і сымпатыкаў Б. Х. Д., да Галоўнай Управы і ўсіх гурткоў Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, каб утварыць супольны фронт.

„Мы лічым патрэбным" — прапануюць камуністы: „згуртаваньне ўсіх сіл беларускіх народных мас у шырокім народным фронце барацьбы супроць полёнізацыі, за беларускія правы. Дзеля гэтага мы зварочваемся да Вас з прапановай прыступіць разам з намі да ўтварэньня гэтакага фронту на грунце наступнай плятформы дамаганьняў".

Далей ідзе пералічэньне элемэнтарных патрэбаў Беларускага народу, якія ўжо даўно і сыстэматычна высоўваюцца ўсімі беларускімі арганізацыямі, зусім непатрабуючымі ў гэтай справе некай помачы з боку маскоўскіх агентаў.

У канцы гэтага цікаўнага пісьма зазначаюць, што адначасна яны зьвяртаюцца да культурна-асьветных арганізацыяў прыгнечаных народаў Зах. Беларусі — да літоўскіх і яўрэйскіх — з прапановай далучыцца да гэтага фронту барацьбы. Зазначаюць, што яны чакаюць на хуткі адказ.

Мы ня ведаем, ці гэтыя „абаронцы" беларускага народу дачакаліся хуткага адказу, ці не, але ў гэтым выпадку нас зацікавіў, між іншым, і такі кур'ёз, што да ліку прыгнечаных народаў яны залічылі і жыдоў, якіх ад надмеру сантымэнту да гэтай расы называюць „благародным" назовам яўрэй,..

Варта прыпомніць абаронцам „пакрыўджаных" сыноў Ізраіля, што жыдоўскі гісторык С. Дубнов, якога хіба-ж ня можна западозрыць у юдафобстве, кажа пра палажэньне свайго народу ў Польшчы наступнае:

„Пасьля сярэднявечнай Вавілоніі і Гішпаніі, ні ў аднэй краіне ня было такой моцнай канцэнтрацыі жыдоўскага элементу і такога прастору да нацыянальна-аўтаномнага поступу, як у Польшчы 16 і наступных стагодзьдзяў" (С. Дубнов, Всеобщая история еврейскаго народа. Книга III, стр. 98).

Ад сябе можам дабавіць толькі, што палажэньне жыдоў у сучаснай Польшчы, куды лепшае, чым яно было ў эпоху перад яе падзеламі, доказы на што лічым непатрэбным зьмяшчаць на гэтым месцы.

Аб чым, аднак, сьведчыць і што фактычна даводзіць гэта новая правакацыя камуністаў у адносінах да Беларускага Народу, якая выявілася ў сувязі з іхняю сэнсацыйнаю і характэрнаю прапазыцыяю?

Каб зразумець гэта, трэба ўзяць пад увагу, што дзякуючы нарастаньню нацыянальнай сьведамасьці беларускіх масаў — агенты камінтэрну аказаліся ізаляванымі ад гэтых апошніх і ў сілу неабходнасьці змушаны цяпер абіваць парогі беларускіх установаў, каб пры іхняй дапамозе знайсьці доступ да гушчаў Беларускага Народу і вясьці там процібеларускую працу.

Нам здаецца, што ўсе беларусы даўно ўжо пазналіся на розных бальшавіцкіх правакацыях і што на гэты раз ім ня ўдасца адурыць нашае грамадзянства, як гэта ўдавалася раней.

Шляхі, якімі ідуць маскоўскія агенты зусім ня сходзяцца са шляхам нацыянальна — дзеючага Беларускага грамадзянства, каторае мае сваім ідэалам аб'яднаную і незалежную Беларусь, звольненую між іншым з пад бальшавіцка-жыдоўскай акупацыі.

*С. Булат.*

---

*Лепш умерці з голаду, пакідаючы добрае імя, чымся за кавалак хлеба адрачыся ад сваіх ідэалаў.*

---

# Ня там трэба шукаць прычыны ліхога.

Польская прэса занепакоена сучасным станам рэчаў, які наглядаецца ў краі.

А занепакоіцца, запраўды, ёсьць з чаго.

Гэтак напр., газ. „Час" „адкрыла Амэрыку", падаючы, што крызіс у Польшчы „пусьціў карані куды глыбей, чымся гэта можа паказацца на першы пагляд і гэтым можна вытлумачыць той факт, што яна апынулася на самым дне гаспадарчай дэпрэсыі (коэфіцыент прамысловага вырабу ў прошлым годзе ў нас 63, тады як коэфіцыент сусьветнага вырабу 96)".

Далей газэта кажа, што „мы перажываем перыяд напружанага беспрацоўя, якое даходзіць да 500.000 чалавек у прамысловасьці і *3 мільёнаў чалавек у земляробстве.* Няма сумліву, што прычынаю гэтага зьявішча ёсьць адсутнасьць нарастаньня капіталу раўнамерна з прыростам насельніцтва. А нарастаньне гэта затрымліваецца страшэнна цяжкім абяднеlarньнем".

Якія-ж вывады з усяго гэтага робіць буржуазная прэса?

Перадусім, тут вінавата, на яе думу, адсутнасьць... кваліфікаваных работнікаў. Найбольш гэта кідаецца ў вочы ў галіне сельскай гаспадаркі. Той факт, што Польшча, краіна на 70% земляробская, маючая 23 мільёнаў земляробскага насельніцтва, у 1933 годзе мела ўсяго 31 профэс. школу, дзе вучылася 1.800 вучняў зьяўляецца красамоўным доказам поўнай адсутнасьці кваліфікаваных працаўнікоў".

Далей газэта зьвяртае ўвагу на адсутнасьць у Польшчы кваліфікаваных работнікаў у галіне гандлю і рамясла і ўрэшце бачыць прычыны ўсяго ліхога дзеючагася ў краі ў школьнай палітыцы, якая „была вельмі памылковаю, бо прывяла да надпрадукцыі (!) інтэлігенцыі і поўінтэлігенцыі, непадгатованай да нармальнай працы".

„Але гэтыя памылкі", — пацяшае газэта сваіх чытачоў: „трэба шукаць у першых гадох польскай дзяржаўнасьці, а цяпер Міністэрства Асьветы павінна гэтыя памылкі направіць".

Адным словам, уся надзея на Міністэрства Асьветы з яго круратарамі, школьнымі інспэктарамі і вучыцялямі, якія вывядуць краіну з таго гаспадарчага бездарожжа ў якім яна апынулася.

Зразумела, што ўсьцяж мы знаходзім той самы шаблённы аргумэнт пра лішак інтэлігентных працаўнікоў, на што мы ўжо зьвярталі ўвагу раней, даводзючы, што няма мовы пра „лішкі" напрыклад дактароў у той час як значная частка хворай беднаты ўмірае пад плотам, або лечыцца ў „ведзьмароў".

Мы разумеем справу так, што буржуазная і жыдоўская прэса замоўчвае пра галоўныя прычыны, каторыя вядуць краіну да катастрофы, дзякуючы віне пануючых клясаў і жыдоў.

А дзе зямельная рэформа, у той час як на вёсцы апынулася больш 3 мільёнаў беспрацоўных? А чаму не праводзіцца агульная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі на коопэратыўных асновах?

А чаму ня ўводзяцца іншыя рэформы, каторыя прынесьлі-б карысьці народным масам і чаму ўрэшце славянскія нацыянальныя меншасьці засталіся на палажэньні пасынкаў?

Нам зьвяртаюць увагу і скаржацца на тое, што аднэй з галоўных прычынаў беспраоцўя ёсьць адсутнасьць нарастаньня капіталу.

Скуль-жа гэтае „нарастаньне" можа ўзяцца, калі нічога ня робіцца нават і ў тым кірунку, каб спыніць адплыў жыдоўскіх капіталаў, каторыя ўцякаюць у Палестыну і Амэрыку разам з жыдамі, каторыя, пачуўшы надыходзячую эпоху нацыянальнага аздараўленьня Эўропы, выяжджаюць адтуль у іншыя, больш зацішныя краіны.

На ўсе гэтыя справы ў буржуазнай прэсе адказу мы не знаходзім, бо й сама буржуазія іх ня мае, а толькі ратуе сваю скуру, агалочваючы разам з жыдамі ўсе краіны з грашовых капіталаў і тым самым прысьпяшаючы надыходзячы сацыяльны катаклізм.

Ратунак перад ім мы бачым у нацыянальным аздараўленьні эўрапейскіх народаў пад уплывам нацыянал-сацыялістычнай ідэолёгіі.

Толькі нацыянал - сацыялісты будуць здольны, здушыўшы ўсе масонска-жыдоўскія шахрайствы, перабудаваць сьвет на лепшых падставах, ачысьціўшы яго ад рознай плесьні, якая там завялася. Хіба-ж толькі вучні малодшых аддзелаў пачатковых школ маглі-б паверыць у тое, што Міністэрства Асьветы мае такую вялікую сілу, каб паправіць існуючы стан рэчаў.

Мы-ж, дзякаваць Богу, ужо вырасьлі і таму ўсе разважаньні газэтаў на падобныя тэмы залічаем да звычайнага замыдленьня вачэй сваіх чытачоў, ад каторых хочуць схаваць запраўдныя прычыны тых жудасных зьявішчаў, якія наглядаюцца ў нас.

Полацкі.

---

*Найганорнейшая кара — гэта кара за адраджэнскую працу для свайго народу.*

---

## Што мае Нямеччына і чаго ня маюць яе ворагі.

У вялікай барацьбе народаў, якая надыходзіць і якой ня дасцца амінуць, сьвет падзеліцца на дзьве часткі—на чале аднэй будзе стаяць нацыянал-сацыялістычная Нямеччына з яе саюзьнікамі, а ў другім лагеры апыніцца Францыя і ўсе тыя вялікія і малыя дзяржавы, якія будуць бараніць выгадны для іх існуючы стан рэчаў, вытвараны Вэрсальскім трактатам. Да ліку апошніх далучыліся і Саветы, якія праз прыязьнь з Францыяй імкнуцца да ператварэньня будучай вайны ў сусьветную рэвалюцыю.

Пры гэтакім выразна зазначаным раскладзе галоўных сілаў цікаўным будзе разглядзець — якая з іх мае большыя шансы на перамогу.

Для нас ясна адно, што барацьба будзе вясьціся не на жыцьцё, а на сьмерць і што ў гэтакай барацьбе рашучы ўплыў на яе вынікі будзе мець дух змагаючыхся народаў і іхняя нацыянальная скансалідаванасьць.

Калі дух нацыі будзе моцным, калі ўвесь народ будзе прасякнуты кіруючаю і захопліваючаю яго ідэяю, то ён вытрымае ўсе няшчасьці і пераможа.

Падыходзячы з гэтага пункту гледжаньня да сучаснай Нямеччыны, мы павінны сьцьвердзіць толькі адно: дзякуючы таму, што ўся яна ад нізоў і да вярхоў захоплена нацыянал-сацыялізмам, які вытварыў сваіх нацыянальных герояў, за каторымі ідзе ўвесь народ,— на старане Нямеччыны знаходзяцца ўсе дадзеныя на перамогу.

Памінуўшы ўсе тэхнічныя ўдасканаленьні і матэр'яльныя сродкі, якімі распалагае гэты край і якія таксама маюць сваё значэньне ў сучаснай вайне—найгалаўнейшым скарбам у ім ёсьць тое, чаго дапялі там нацыянал-сацыялісты, завяваўшыя сымпатыі агульны послух ўсяго народу.

Пры гэтакім стане рэчаў Гітлер можа вясьці свой край, куды будуць таго вымагаць абставіны і ён пойдзе, не азіраючыся на ахвяры.

Народ наэлектрызаваны нацыянальнаю ідэяю разумее, што гэтакіх ахвяраў вымагае дабро нацыі, якая мусіць разьвівацца і жыць ня толькі для сваіх будучых пакаленьняў, але і дабра ўсей людзкасьці.

Цяпер разгледзім справу з другога боку. Процi нацыянальна-аздаравеўшае Нямеччыны выступаюць на чале з Францыяю і яе яўнымі саюзьнікамі, саюзьнікі тайныя ў постаці сусьветнага жыдоўства, масонаў, марксістаў, і наагул усе цёмныя сілы, якія ашуканствам і гвалтам імкнуцца да пашырэньня свайго панаваньня над усімі народамі.

Гэтыя чорныя сілы давялі ўжо Эўропу да галіты, беспрацоўя і да паняволеньня народаў слабейшых, якія ахвяраваны імі на зьнішчэньне.

Цяпер яны імкнуцца да канчальнай руіны эўрапейскіх народаў і да ператварэньня

ўсей людзкой грамады ў сваіх нявольнікаў і неаплатных даўжнікоў.

Што датычыць самой Францыі, якая апынулася на чале гэтакай пачварнай коаліцыі, то яна сама з грамадзкага пункту гледжаньня не выяўляе з сябе ніякай вартасьці.

Перадусім, там наглядаюцца вельмі моцныя ўплывы марксістаў і жыдоў, каторыя пхаюць яе на рызыкоўныя крокі з пагляду толькі на вялікую ненавісьць да Нямеччыны і да тых ідэяў, якія яна рэалізуе.

Праўда, за апошнія часы выявіўся і там даволі моцны кірунак чыста нацыянальнай думкі, але пакуль-што ён не зьяўляецца пануючым.

Для аздараўленьня Францыі патрэбна нацыянал - сацыялістычная рэвалюцыя, на якую яна бадай ці здабудзецца, бяручы пад увагу моцныя ўплывы розных цёмных сілаў, якімі яна апутана.

Адзінае, што пратрымае некі час Францыю ў яе барацьбе — гэта прага утрымаць выгадны для французкай буржуазіі існуючы стан рэчаў, вытвараны пасьля Вэрсальскага трактату і абагаціўшы яе коштам абяднення іншых народаў.

Але гэтая прычына ня спыніць раскладу Францыі, якая хуткім крокам прыбліжаецца да канчальнага заняпаду.

Што датычыць галоўнага саюзьніка архі-буржуазнай Францыі — камуністычных Саветаў, то й тут няма той захопліваючай ідэі, аздараўляючай і узмацняючай народ, якая-б пхала яго на гэраізм і дала перамогу ў будучай вайне.

Саветамі кіруюць камуністы проці волі аграмаднай большасьці народу і гэтазаважыць на іхнім лёсе.

Нават з пункту гледжаньня мілітарнага Саветы ўяўляюць з сябе вельмі малую вартасьць.

Справа ў тым, што яны ня могуць весьці вайну, закроеную на нейкі даўжэйшы час, бо тут прышлося-б мабілізаваць увесь народ, а гэты апошні атрымаўшы зброю, павярнуўбы яе проці ўнутранага свайго ворага.

Дзеля тэтай прычыны Саветы будуць старацца выступіць у сусьветнай вайне падчас „шапачнага разбору", каб закончыць яе рэвалюцыяй. Але як бы яны ні хітрылі—абставіны змусяць іх да вайны якраз у такую пару, якая будзе для іх найбольш нявыгаднаю і тады, між іншым, Францыя пераканаецца—якую малую вартасьць уяўляе з зябе яе камуністычны саюзьнік.

Гэтакім чынам мы бачым, што проці Нямеччыны, моцна сцэмэнтаванай грамадзкі і палітычна, змабілізаваліся розныя сілы, ня маючы паміж сабою амаль нічога супольнага.

Іх абʻяднала таямнічая масонска-жыдоўская рука, якая перад пагрозаю распаўсюджаньня нацыянальна-сацыялістычных ідэяў утварыла гэтакую фантастычную мешаніну і спрагла разам буржуазную Францыю з яе прыслужнікамі з камуністычнымі Саветамі. Мы пераканаsuccessor ў тым, што такі недарэчны твор будзе разьбіты і што над сьветам запануюць новыя ідэі і новыя сілы.

Надыходзячыя падзеі адчыняць і народу Беларускаму сьветлую старонку ў ягонай гісторыі. Звольнены з пад маскоўскай камуністычнай няволі, ён утворыць незалежную дзяржару, абʼяднае ўсе беларускія землі і завядзе ў іх новы лад і новыя парадкі.

Гэта народ Беларускі мусіць добра сабе ўсьведаміць, не запамінаючы адначасна і таго, што савецка-французская перамога прынясла-б нам разам з пяціраменнаю жыдоўска-камуністычнаю зьвяздою, векавечную няволю.

Ф. А.

---

# Абшарніцка-жыдоўская эксплёатацыя сялян і работнікаў.

„Kurjer Wileński" з дня 15. VIII. 1935 г. у артыкуле „Frontem do wsi Ozierawce" між іншым падае цікаўныя весткі, прыпамінаючыя даўнейшыя панска-шляхоцкія часы, калі то пан паслугоўваўся жыдом для эксплёатацыі прыгоннага люду.

Штось падобнае дзеіцца і цяпер у Браслаўскім павеце.

Аддаём у гэтай справе голас „Kurjeru Wileńskiemu":

„Пан з Бэльмонту плаціць нам за працу квіткамі — казалі ў вёсцы Озераўцы. — А калі папросіш грошай, дык скажа: „*Ідзі да Шмэркі, ён прадасьць табе за гэты квіт, што ты захочаш...*"

І селянін ідзе да Шмэркі, або да Лоткіна... Бярэ там тое, што яму даюць і па такой цане, якую яму дыхтуюць „спагадаючыя дабрадзеі", каторыя быццам *з ласкі прыймаюць панскія квіты.*

Гэтыя квіты патрэбныя ёсьць Шмэрцы, бо ён купуе ў пана малако і плаціць пану ягонымі квітамі.

Як бачым „бэльмонцкая валюта" робіць кола і варочаецца да свайго пана. Ня ўсё аднак варочаецца. У сялянскіх століках поўна ёсьць тых квітоў, за якія селянін з трудом па шмат месяцах чаканьня можа іх выкарыстаць.

Аб „бэльмонцкай валюце" знаюць добра скарбовыя ўлады. Нядаўна ў вёску прыехаў сэквэстратар па складку на „супалку водну ў Браславі". Зажадаў ён грошай, а селянін у адказ *выгарнуў на стол некальнінаццаць бэльмонцкіх квітоў на суму 30 злотых.*

— Бяры, пан, скольки хочаш — сказаў у роспачы — панскія грошы, „пана з Бэльмонту".

*Калі падыходзіць час заплаты падаткаў, сяляне прыносяць „бэльмонцкую валюту“ да скарбовага ўраду і просяць:*

— Прыміце, паны, *гэта-ж запрацаваныя грошы. Вам будзе лягчэй атрымаць ад пана,* мы ня можам...

...Шмат вёсак у Багінскай, Ёдскай і Браслаўскай валасьці вазілі дрэва з Бэльмонцкага лесу на тартак, да чугункі і да сплыву і возяць цяпер. Работа кіпіць, а селянін заместа грошай атрымоўвае квіты і пацяшэньне:

— *Можаш, што хочаш купіць у Шмэркі.*

Прыкмечана, што шмат вёсак у вышменаваных валасьцёх задоўжана падаткамі. Хочуць плаціць „бэльмонцкай валютай“ але скарбовыя ўлады не бяруць і радзяць скаржыцца на „пана з Бэльмонту“. Селянін адказвае:

— Я скаржыцца ня буцу, Пан *выганіць мяне з працы, жыць ня дасьць* і тых квіткоў ня буду мець. А так хаця да Шмэркі магу пайсьці.

Селянін праклінае пана і мае жаль да лёкальных дзяржаўных уладаў...

...Сяляне маюць глыбокае перакананьне, што паны з вялікіх двароў цешацца спэцыяльнымі прывілеямі і што ім усё можна.

— Ну бо вось, калі ласка, пане—казаў адзін селянін—пан ня плаціць работніку, каторы цярпіць галіту і голад, а за граніцу вывозіць грошы. Я быў на сабраньні ў валасьці. Быў там і пан. Гаварылі аб усім.

А пасьля пан кажа: „Я люблю да Францыі езьдзіць самалётам. Надта выгадна“. — Вытлумачце, калі ласка, — калі пан мае грошы на выезд за граніцу, дык чаму-ж ня плаціць работнікам?

— Хіба дзеля таго, каб мець грошы на заграніцу...

Хто заскаржыць сялянскую крыўду? — пытае „Kurjer“ і не дае на гэта адказу. Бо і што-ж ён можа адказаць, ён энтузыяста існуючага палітычна-грамадзкага ладу і цяперашняга ўраду?

---

*Коопэрацыя*

*ёсьць добрай школай для тых добрых грамадзян, каторыя любяць і цэняць лад у гаспадарцы, любяць і цэняць працу грамадзкую. Коопэрацыя — гэта ёсьць сябрына, якая злучанымі сіламі і злучанымі грашмі вядзець грамадзкую гаспадарку. Усе добрыя сьвядомыя грамадзяне павінны належаць да беларускага спажывецкага коопэратыву, а дзе такога няма — павінны ўзяцца ды сарганізаваць.*

---

## Куды падзяюцца грошы?

Грошы, як вядома, зьяўляюцца пры сучаснай буржуазна - капіталістычнай сыстэме, „галоўным мотарам“ усяго гаспадарчага жыцьця.

Адсутнасьць грошаў у краі вядзе да заміраньня экономікі, да беспрацоўя і іншых пачварных зьявішчаў, каторыя мы наглядаем.

Галоўныя запасы грошаў сабраны ў руках гандляроў, банкіраў і прамыслоўцаў, каторыя як напр. у Польшчы зьяўляюцца пераважна жыдамі.

Заўважана, што ў апошнія годы жыдоўскі капітал хутка пачаў адплываць з эўрапейскіх краін у іншыя, пераважна ў Палестыну і Паўдз. Афрыку.

Гэтак, напрыклад, паводлуг самой жыдоўскай прэсы ў працягу траўня і чэрвеня г. году ў Палестыну выехала 8.343 жыдоў, якія прывезьлі з сабою адзін мільён фунтаў штэрлінгаў, што на польскую валюту дае 26 мільёнаў 40.000 злотых.

Адплыў капіталаў з Эўропы простым шляхам вядзе да пагаршэньня матэрыяльнага палажэньня працоўных і да ўзмацненьня сярод іх камуністычных настрояў, што бязумоўна ўваходзіць у пляны жыдоўскіх павадыроў.

Жыды ўсімі сваімі чынамі стараюцца выклікаць сусьветную завяруху, дзеючы ў гэтым напрамку плянова і консэквэнтна.

Разумна робяць тыя народы, як, напр. немцы, каторыя забараняюць у гэтакія цяжкія часы вывозіць са сваей краіны грашовыя капіталы.

На вялікі жаль, беларусы, пазбаўленыя сваёй дзяржаўнасьці, ня могуць устрымаць працэс агалочаньня свайго краю з капіталаў, каторыя будучы выключна ў жыдоўскіх руках, вывозяцца за граніцу.

---

## Што казалі нямецкія нацыянал-сацыялісты на сваім сёлетнім зьезьдзе?

Штагод нямецкія нацыянал - сацыялісты ладзяць зьезды ў г. Нюрэнбэргу. На гэных зьездах яны робяць перагляд сваіх сілаў і працы, апрацоўваючы пляны на будучыню.

Сёлета такі зьезд адбыўся на пачатку верасьня. У ім брала ўдзел панад 800 тысяч нацыянал - сацыялістаў. На зьезьдзе былі прадстаўнікі іншых дзяржаваў. Павадыр нямецкіх нацыянал-сацыялістаў выгаласіў цікаўную прамову, у якой між іншым пра камуністаў казаў: „Мы знаем надта добра міжнародных агітатараў, якіх адзінае жаданьне —перамяніць Эўропу на поле бою і каб мы не разумелі прычынаў і мэтаў іхніх імкненьняў. Але чым больш міжнародна-жыдоўскі камунізм спадзяецца, што ў агульнай эўрапейскай завярусе можа выклікаць камуністычную рэвалюцыю і здабыць бальшавіцкую

дзяржару прыгону, коштам свабоды і жыцьцёвай ступені народаў, тым больш мы нацянал-сацыялісты, каторыя маем гонар быць фанатычнымі ворагамі паняволеньня народаў - можам належна ацаніць значэньне прывярненьня нашай нацыянальнай збройнай сілы".

Іншыя прамоўцы таксама востра выступалі супроць камуністаў. „За плячамі маскоўскага каманізму — казалі яны — стаіць міжнароднае жыдоўства, якое прыгатаўляе загубу Эўропе..."

Др. Гэбэльс, адзін з кіраўнікоў нямецкіх нац.-сацыялістаў у сваёй прамове між іншым казаў: „Між жыдоўствам і камунізмам ёсьць цесны саюз. Камунізм пашыраюць ва ўсіх краёх амаль выключна жыды".

Другі прамоўца др. Розэнбэрг выражаўся так: „Бальшавізм, гэта вораг народаў, рэлігіяў і нацыянальнай культуры. Ён ёсьць снарадзьдзем сусьветнага жыдоўства і мае на мэце зьнішчыць эўрапейскую культуру. Дзеля гэтага барацьбу з бальшавізмам трэба зачаць ад усуненьня жыдоў ад уплыву на долю сьвета..."

## „Будзь гатоў!"

Калі яшчэ ня так даўно Віленская Беларуская Гімназія была тэрэнам камсамольскіх уплываў—цяпер як відаць з беларускай прэсы, там разьвіваюцца беларускія скаўты, якіх як ведама галоўным клічам зьяўляецца: Бацькаўшчына!

Як падае блізкая да Віленскай Беларускай Гімназіі прэса, у кароткім часе арганізатары скаўтаў змаглі зацікавіць моладзь скаўцтвам і гэтая моладзь зразумела, што беларускі скаўтынг для адраджэньня беларускага народу вельмі патрэбны. Дружына беларускіх скаўтаў усьцяж узрастае лічбова і якасна.

Сярод кандыдатаў на скаўтаў і самых скаўтаў праводзіцца грамадзка-узгадаваўчая праца ў духу любові Бацькаўшчыны і гатовасьці аддаць сваю працу і сілы на карысьць адраджэньня беларускага народу.

Дружына беларускіх скаўтаў мае зацьверджаны праект вопраткі беларускага скаўта, якая апрача агульна-скаўцкіх адзнакаў мае адзнакі нацыянальныя беларускія.

Каманда ў скаўцкай дружыне вядзецца пабеларуску. Сьцяг скаўтаў — бел-чырвона-белы.

Ужо скаўты выдалі першы нумар сваей газэткі „Беларускі скаўт" у якой яны з націскам зазначаюць, што скаўт вучыцца глядзець на сьвет вачыма вольнага чалавека.

Дык гатоўся, беларускі скаўце, глядзі заўсёды гэткімі вачыма — ў шчасьці і горы, у бурах і сьцюжах.

Глядзі вольнымі вачыма і рыхтуйся да барацьбы за волю сваей Бацькаўшчыны.

Можа ты, беларускі скаўце, сваім энтузыязмам, сваей маладой энэргіяй хутчэй паможаш працерці вочы і штурхнуць да дзейнасьці заспанае крывіцкае племя.

Дык будзь гатоў!

**Казлоўшчык.**

## Хто ўладае бальшавіцкай Расеяй?

На гэтае цікавае пытаньне дае адказ украінская газэта „Нове Село" (ад 2.VI.35 г.) каторая друкуе наступныя дадзеныя:

У СССР жыды твораць толькі 1,7% усяго жыхарства, але ўрадоўцаў жыдоў у аднэй толькі Маскве налічваецца 150.000. Праўда, што на чале бальшавіцкага ўраду стаіць грузін Сталін, але яго найбліжэйшымі памоцнікамі ёсьць жыды Кагановіч, Літвінов - Валах (лодзінскі жыд) і Радэк (галіцыйскі). На 59 сяброў політбюро, якое кіруе ўсей дзяржаваю — ёсьць 56 жыдоў і толкі 3 ня жыдоў. Галоўныя павадыры чырвонай Арміі — Тухачэўскі, Ворошылов і Будзённы ня ёсьць жыдамі, але іхнія памоцнікі, без каторых яны нічога ня могуць зрабіць, зьяўляюцца чыстакроўнымі жыдамі, прыкрываючымі свае расавае паходжаньне расейскімі прозьвішчамі.

Галоснае „Г.П.У.", дзе мардуюць і катуюць людзей, поўнасьцю апанавана жыдамі, ад вярхоў,—дзе стаяць Гэршко Ягада і Агранов Стрэнзон — да звычайнага ката і шпіка.

Усе канцэнтрацыйныя лагеры апынуліся пад кіраўніцтвам Мэндэля Бэрмана, а яму памагаюць жыды Рапопорт і Коган.

Усімі бальшавіцкімі турмамі кіруе жыд хаім Апэнотэр.

Няма чаго дзівіцца, калі ўвесь савецкі промысел і гандаль таксама кіруецца жыдамі Розэнгольцам, Гінцбургам, Гурэвічам, Маргулесам і іншымі.

Тое самае наглядаецца і ў прэсе.

Гэтакім чынам, мы бачым, што вялічэзная краіна, маючая 150 мільёнаў насельніцтва поўнасьцю апанавана жыдоўскімі спэкулянтамі, каторыя ператварылі яе ў сваю калёнію.

Гэта ўсё ёсьць такім яскравым фактам, над каторым трэба застанавіцца кожнаму сьвядомаму чалавеку і тады стане зразумелым той „рэвалюцыйны" уздым якім ахоплены нашыя жыды, каторыя ўцягваюць беларускую моладзь у свае хітра растаўленыя сеці.

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі    Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія

Белар. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1—3.

